**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№35(647)**
**30 жніўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**



*Віншуем са святам Дня беларускага пісьменства і друку!*

**vglybokaye@tut.by**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае






## На дзень ведаў, 1-2 верасня, Мосар запрашае на выставу старажытнай кнігі "Скарбы вякоў" і кірмаш рэлігійнай кнігі

**Ва ўсіх касцёлах на Беларусі на пачатку навучальнага года адбываецца малітва за ўсіх, хто пазнае створаны Богам навакольны свет, вывучаючы дакладныя навукі ў школе ці ўніверсітэце, а таксама самага Бога на занятках па рэлігіі ў касцёле.**

У нядзелю пасля Святочнай Літургіі ў 13 гадзін адбудзецца спецыяльнае благаслаўленне вучняў, студэнтаў і настаўнікаў, а таксама асвячэнне кніг і падручнікаў.

На распачацце навучальнага і катэхэтычнага года варта ўшанаваць кнігу, асабліва Святое Пісанне – Біблію, бо Бог звяртаецца да нас, каб мы не заблукалі ў нашым бурлівым зямным жыцці, каб заўсёды маглі бачыць сэнс жыцця. Таму варта пераасэнсаваць ролю кнігі ў нашым жыцці.

Старажытныя кнігі маюць вялікую каштоўнасць, таму мы іх клапатліва зберагаем і захоўваем, але кожная добрая кніга мае вялікую вартасць. Ці мы памятаем аб гэтым? Дацаніць вартасць кнігі і пераасэнсаваць яе ролю ў нашым жыцці на дзень ведаў можна будзе ў Мосары.



У Парафіяльным доме ў Мосары 1-2 верасня з 11 гадзін будзе праходзіць выстава старажытнай кнігі XVII-XIX стагоддзя "Скарбы вякоў", дзе будуць прадстаўлены старыя метрычныя і літургічныя кнігі.

У гэтыя дні ў касцёле адбудзецца таксама і кніжны кірмаш каталіцкіх выдавецтваў, на якой можна будзе набыць кнігі хрысціянскай тэматыкі.

Кожны наведвальнік падчас наведвання Мосарскага касцёла атрымае рэлігійны часопіс на беларускай мове.

Падрабязная інфармацыя на сайце:
**http://mosar.vickyblog.com**

***Ксёндз Аляксей Юркайць,***
*адміністратар парафіі Мосар.*

## Перапрашаем за часовыя нязручнасці!

**Паважаныя жыхары горада Глыбокае і раёна!**

У сувязі з правядзеннем Дня Беларускай пісьменнасці ў г. Глыбокае просім Вас, з мэтай пазбягання нязручнасцяў пры перасоўванні, устрымацца ад паездак на транспарце, так як з другой паловы дня 31.08.2012 года і да 23-00 гадзін 2.09. будуць перакрытыя вуліцы: Леніна, Чырвонаармейская, М.Горкага, Энгельса, часткова Савецкая, Камуністычная, праезд да дзіцячай пляцоўкі – з боку вул. Мінскай. Чакаецца прыезд мноства гасцей, горад будзе перапоўнены транспартам. Просім Вас з разуменнем паставіцца да дадзенай праблемы.

З павагай **І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.*

## Да ўвагі аўтааматараў!

У сувязі з правядзеннем Дня беларускага пісьменства Міжраённае экзаменацыйнае аддзяленне ДАІ (МРЭА ДАІ) пераносіць рабочы дзень з 1 верасня на 3 верасня.

1 верасня МРЭА ДАІ працаваць не будзе.

*МРЭА ДАІ*

Шаркоўшчынскі раён

# Наваселле блізіцца

■ Станіслаў Раманчук

**З неверагоднай хуткасцю апошнім часам у розных кутках краіны ўзводзяць чамусьці адны лядовыя каткі, якія потым цяжкім грузам кладуцца на мясцовыя бюджэты.**

А вось новая цэнтральная райбальніца ў Шаркаўшчыне ўваходзіць у сумны спіс айчынных доўгабудаў, бо будуецца ўжо тры пяцігодкі. Гэты патрэбны насельніцтву аб’ект аховы здароўя меркавалася здаць нарэшце летам, а задумалі яго яшчэ ў БССР. Аднак у сілу розных прычын здачу трохпавярховай бальніцы адклалі да наступлення халадоў і пачатку ацяпляльнага сезона. Праўда, новая райпаліклініка дзейнічае ў райцэнтры ўжо восьмы год і па праграме мадэрнізацыі паступова пераснашчаецца новым медабсталяваннем. Нядаўна мясцовыя медыкі запусцілі для пацыентаў новую ванну з падводным душ-масажам. Мясцовых медработнікаў парадавала, што на закуп сучаснага абсталявання для працы, УЗІ-апаратуры дадаткова выдзелілі яшчэ 6 млрд. рублёў. Дарэчы, у лячэбным і іншых карпусах райбальніцы, дапаможных памяшканнях зараз актыўна вядуцца аддзелачныя работы. Шэраг палат для хворых ужо поўнасцю гатовы, атрымаліся яны светлымі і прасторнымі, утульнымі для людзей. Тут нават прадугледзілі душавы пакой на дзве камфартабельныя палаты для размяшчэння 2-3 пацыентаў. У новай ЦРБ з’явяцца нарэшце некалькі ліфтоў для перавозкі хворых і грузаў, а дагэтуль гадамі нават пасля цяжкіх аперацый прыходзілася іх пераносіць на насілках. Вакол бальніцы добраўпарадкоўваецца тэрыторыя з закладзеным вясной паркам і вадаёмам. Магчыма, такое ж наваселле справіць у бліжэйшыя год-два і падобны доўгабуд у суседніх Мёрах.



Мёрскі раён

# Жыве спрадвечная традыцыя

■ Чэслаў Якубовіч

**Штогод лета – самая спрыяльная пара не толькі для актыўнага адпачынку, але і для духоўнага ўзбагачэння людзей.**

Менавіта ў гэты час вернікі-паломнікі наведваюць найчасцей святыя мясціны, хрысціянскія фэсты, едуць па святую ваду да гаючых крыніц. А ў самым маленькім горадзе краіны Дзісне, што ў Мёрскім раёне, па даўняй традыцыі напрыканцы жніўня праходзяць урачыстасці ў гонар Дзісненскай цудатворнай іконы Багародзіцы. У той летні дзень сіноптыкі прагназавалі ападкі, але нябесная канцылярыя быццам зміласцівілася і дождж пайшоў, калі вернікі сталі раз’язджацца. Аднак з самай раніцы сюды да старажытнай Уваскрасенскай царквы сталі прыбываць аўтобусы з розных куткоў Прыдзвіння. Пасля ўрачыстага малебна, які прайшоў з удзелам архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія, святыню Багародзіцы з Ісусам вынеслі з храма. Сотні прыхаджан і паломнікаў ствараілі велічны людскі ланцужок і пачаўся хрэсны ход. Дарэчы, гэтыя мясціны нібыта асвечаны глыбокай духоўнасцю і верай і менавіта тут Маці Божая найчасцей адгукаецца на малітвы і просьбы людзей у цяжкіх жыццёвых абставінах. Нездарма ў мясцовай царкве захоўваюцца мошчы новамучаніка іерэя Канстанціна Жданава, які быў жорстка забіты бальшавікамі за веру і кананізаваны цяпер Беларускай праваслаўнай царквой. Тут нёс калісьці душпастырскую службу і легендарны патрыярх Ціхан. Падчас урачыстасцей ікону пранеслі па горадзе набярэжнай у Адзігітрыеўскую царкву, дзе прайшоў таксама малебен, а вернікі адчулі ў душах прысутнасць і падтрымку Багародзіцы.

Пастаўскі раён

# З райцэнтра ў прэстыжныя клубы

■ Кастусь Александровіч

**Адным з самых вядучых у Беларусі цэнтраў падрыхтоўкі футбольнага рэзерву для каманд майстроў стала футбольная акадэмія, створаная ў Паставах пры мясцовым прыватным мебельным цэнтры.**

Гэта сёлета пацвердзіў першы выпуск футбольнага спецкласа Пастаўскай СШ №3, у якой добра вучыліся і атрымалі атэстаты сталасці маладыя хлопцы. Яны паспяхова праявілі сябе не толькі на занятках (сярэднія балы па 8 і болей), але і ў любімым спорце. У завяршыўшымся чэмпіянаце Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе (U-18) пастаўчане занялі выніковае 5-е месца сярод 16 каманд, хоць па ўзросце былі маладзейшыя на год за сапернікаў. У выніку мясцовы паўабаронца Міхаіл Бабічаў падпісаў нават прафесійны кантракт з расійскім суперклубам “Рубін” (Казань) і залічаны ў яго маладзёжны склад. На прагляд у адзін з клубаў бундэслігі ў Германію запрасілі нападаючага Кірыла Сідарэнку, якога гатовы ўзяць у свой склад мацнейшы айчынны клуб БАТЭ (Барысаў). У Барысаве, дарэчы, прадоўжыць прафесійную кар’еру яго таварыш па амплуа Аляксей Пятрэнка. Пры гэтым ён, як і астатнія хлопцы, сталі студэнтамі вядучых айчынных ВНУ. Праца футбольнай акадэміі ПМЦ арганізавана настолькі прафесійна, што большасць яе выхаванцаў пасля школы трапілі таксама ў іншыя каманды вышэйшай і першай ліг Беларусі. Зараз у райцэнтры вучацца бясплатна ў футбольнай акадэміі ПМЦ амаль 170 дзяцей розных узростаў, а дзве каманды з Пастаў ва ўзросце да 15 і 16 гадоў зноў узялі старт у нацыянальным юнацкім першынстве ў вышэйшай лізе.

# Лічба нумара

**4** – столькі разоў даражэў кошт навучання для беларускіх студэнтаў на платных аддзяленнях айчынных ВНУ на працягу толькі мінулага навучальнага года. Пацвярджаюць гэту сумную тэндэнцыю і дадзеныя Белстата: сёлета ў пачатку лета паслугі атрымання вышэйшай адукацыі каштавалі болей на 90 %, чым у чэрвені 2011 года. А потым год назад пачалася і тут сапраўдная цэнавая вайна, калі летась беларусы прыкметна пабяднелі на фоне шалёнага росту цэн і абвалу нацыянальнай валюты.

Такім чынам у нашай быццам дзяржаве для народа спачатку студэнты сталі плаціць болей за вучобу ў сярэднім на 20 % з 1-га верасня мінулага года. Другое павышэнне кошту навучання прайшло неўзабаве яшчэ на 25 % на працягу кастрычніка-лістапада. Сёлета атрыманне жаданых дыпломаў стала даражэй з 1-га лютага яшчэ на 29 %. Апошняе павышэнне адбылося па існуючай у нас завядзёнцы заднім чыслом, праўда толькі болей на 5 %, у пачатку чэрвеня.

Але суровая праўда жыцця зараз такая, што вучыцца ў ВНУ за грошы могуць толькі самыя багатыя беларускія сем’і, паколькі з новага навучальнага года першакурснікі вельмі прэстыжных спецыяльнасцей (да прыкладу, на факультэтах міжнародных зносін і юрыдычным БДУ) павінны ўнесці ў касу вядучага ўніверсітэта краіны амаль 2 тысячы долараў, альбо каля 15 млн. беларускіх рублёў. Пакуль у Белдзяржуніверсітэце танней усяго атрымаць дыплом філолага, але там год навучання каштуе амаль 1300 USD. А за 5 гадоў навучання плюс аплату здымнага жылля набіраецца ўжо значная сума, бо , па дадзеных Міністэрства адукацыі РБ, з болей 91 тысячы студэнтаў-першакурснікаў за кошт дзяржбюджэту будуць вучыцца з 1-га верасня сёлета толькі 32,2 тысячы юнакоў і дзяўчат.

Як ні круці, а вышэйшая адукацыя становіцца для беларусаў, сапраўды, вельмі дарагой і недаступнай для многіх сем’яў з нізкімі даходамі, асабліва для жыхароў больш беднай правінцыі. У нас з 10 кожных студэнцкіх месц ужо амаль 7 платныя.Чарговая ўступная кампанія гэта яскрава пацвердзіла і конкурс на шэраг раней папулярных спецыяльнасцей з-за высокага кошту вучобы стаў прыкметна меншы, чым у папярэднія гады. Гэта пацвердзіла залічэнне на платныя аддзяленні многіх айчынных навучальных устаноў, дзе засталося шмат свабодных месцаў. Новыя расцэнкі кошту навучання прымусілі многіх бацькоў горка расчаравацца і адмовіцца ад ідэі вучыць дзяцей за грошы, бо няпроста выкласці сама менеі цяпер каля 11 млн. рублёў за год вучобы.

У выніку ў адным з самых дарагіх ВНУ – Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі (кошт навучання дасягнуў 14,7 млн. рублёў) за дзень да завяршэння прыёму заяў на платныя аддзяленні пуставала больш 40 % студэнцкіх месц. У шоку была прыёмная камісія аднаго з самых прэстыжных ВНУ – БДУ, дзе пры наяўнасці 221 месца на запатрабаваную спецыяльнасць “менеджмент” было пададзена толькі 109 заяў ад абітурыентаў, у якіх бацькі маюць патрэбныя даходы.

На буйны фізічны факультэт БДУ ўвогуле конкурсу не было зусім, бо залічылі на вучобу ўсіх 136 першакурснікаў-абітурыентаў, якія падалі дакументы, а 49 бюджэтных месц засталіся незанятымі. На 16 платных месц тут падаў заяву толькі адзін будучы фізік. Не было зусім конкурсу і на ваенным факультэце Белдзяржуніверсітэта, куды на 4 будучыя армейскія спецыяльнасці залічылі ўсіх жадаючых, хто падаваў заявы, нават з нізкімі баламі.

Як вынікае, планка ў некалькі тысяч долараў штогод, паднятая за камерцыйнае навучанне ў Беларусі рэктаратамі айчынных ВНУ, стала занадта высокай для многіх суайчыннікаў. З існуючай цэнавай палітыкай, падобна на тое, міжволі, не па сваёй волі не згаджаюцца патэнцыйныя першакурснікі і іх бацькі, бо не было ў жніўні абяцанага павышэння тарыфных ставак. Беларусы дажыліся да таго, што і камерцыйнае жыллё, якое ім прапануюць узводзіць за свае грошы, таксама ўжо не могуць гэта рабіць з-за нізкіх даходаў. Людзям застаецца толькі марыць аб уласным даху над галавой.

Хутка стане вядома, як нашы ўніверсітэты і акадэміі справіліся з планам прыёму студэнтаў, але відавочна, што існуючая эканамічная і сацыяльная сістэма сябе вычэрпвае.

Жыць увогуле становіцца ўсё цяжэй і цяжэй у нас, цэны растуць пастаянна, а вучыцца за грошы і атрымоўваць прэстыжныя дыпломы беларускіх ВНУ могуць дазволіць ужо не ўсе беларускія сем’і.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 30.08.12 | | | | Пятніца 31.08.12 | | | | Субота 01.09.12 | | | | Нядзеля 02.09.12 | | | | Пнд.03.09.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +14 | +19 | +14 | +10 | +13 | +19 | +14 | +11 | +13 | +20 | +15 | +13 | +14 | +17 | +14 | +12 | +13 | +18 |
| Ціск | 750 | 751 | 751 | 752 | 751 | 752 | 752 | 752 | 752 | 752 | 752 | 751 | 749 | 748 | 748 | 749 | 749 | 749 | 749 |
| Вільготнасць | 94 | 91 | 68 | 79 | 94 | 78 | 44 | 72 | 88 | 78 | 45 | 66 | 90 | 94 | 82 | 85 | 98 | 93 | 82 |
| Вецер м/сек | 4 С | 3 С | 3 С | 3 С-В | 2 В | 3 В | 3 Ю-В | 4 Ю-В | 4 Ю-В | 4 Ю-В | 4 Ю | 5 Ю-В | 6 Ю | 5 Ю-З | 6 З | 3 С-З | 2 З | 2 Ю-З | 3 З |

## Дзень за днём

**Абяцанага павышэння зарплат бюджэтнікі Беларусі ў жніўні не дачакаліся, аднак адпускныя цэны на малако, смятану і тварог узраслі зноў на 35 %. Хлеб і мяса для беларусаў падаражэлі яшчэ на 10 %. Самаізаляцыя краіны ад Еўропы толькі ўзмацнілася пасля выдварэння пасла Швецыі і закрыцця беларускага пасольства ў Стакгольме. Амбіцыйны "План-25" А. Лукашэнкі па заваяванні такой колькасці ўзнагарод Алімпіяды ў Лондане з трэскам праваліўся. Мінскія студэнты будуць аплочваць поўнасцю праезд у грамадскім транспарце. У склад участковых выбарчых камісій уключылі 10 % членаў ад апазіцыі.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Пасля 8-месячнага палёту амерыканскі марсаход нацыянальнага агентва НАСА ажыццявіў пасадку на паверхню гэтай планеты і пачаў перадаваць адтуль якасныя здымкі.

**Сірыя.** На бок паўстанцаў перайшоў прэм'ер-міністр Рыяд Хіджаб і ўцёк з сям'ёй у суседнюю Іарданію, падчас узброенага канфлікту ў краіне забіта ўжо каля 20 тыс. людзей.

**Сербія.** Новы ўрад краіны ўзначаліў былы прэс-сакратар Слабадана Мілошавіча 46-гадовы Івіца Дычыч, ён гатовы прадоўжыць праект зближэння і ўступлення сербаў у Еўрасаюз.

**Расія.** З-за засухі ў шэрагу рэгіёнаў краіны пачалі расці цэны на хлеб, яе эканоміцы пагражае перагрэў пры росце ВУП сёлета на 4 % і гадавой інфляцыі ў памеры 6,5 %.

**Егіпет.** Пасля нападзення палесцінскіх баевікоў на армейскі блок-пост прэзідэнт М. Мурсі авіяцыяй знішчыў 20 тэрарыстаў і пазбавіў пастоў шэраг ваенных, главу разведкі.

**Бельгія.** На АЭС "Дул" адбылася аварыя, на адным з карпусоў станцыі выявілі некалькі трэшчын, аб'ект пабудавала 30 гадоў назад ужо неісную чая фірма з суседняй Галандыі.

**Германія.** Глава федэральнай разведкі Герхард Шындлер папярэдзіў аб пагрозе тэрактаў, якія рыхтуюць на тэрыторыі ЕС баевікі "Аль-Каіды", самазабойцы са спецлагераў Емена.

**Румынія.** Нізкая яўка на галасаванне выратавала ад імпічменту прэзідэнта Траяна Бэсеску, але краіна звярнулася ў МВФ за чарговым пакетам дапамогі ў памеры 5 млрд. еўра.

**Венесуэла.** У выпадку сваёй перамогі на выбарах прэзідэнт У. Чавес паабяцаў да 2019 года ўсім "дастойнае жыллё", яго не маюць 3 млн. сем'яў, ён кіруе краінай ужо 13 гадоў.

**Расія.** Антыкрызісны фонд ЕўрАзЭС прызнаў, што працэс стабілізацыі эканомікі ў РБ не завершаны, існуе рызыка крызісу, пры разглядзе пытання выдзялення краіне 4-га траншу.

**Грэцыя.** Новы ўрад краіны, як заявіў амерыканскі эканаміст Нурыэль Рубіні, праз паўгода развваліцца, бо эканоміка ў заняпадзе, праблемы растуць, пагражае выхад з зоны еўра.

**Карэя.** Кампанія Samsung прадставіла і ў Беларусі самы "тонкі" ў свеце наўтбук серыі 9 New з 13-дзюймовым экранам таўшчынёй усяго 12,9 мм і вагой 1,16 кг коштам ад 1600 $.

**Кітай.** У выніку моцных дажджоў на паўночным усходзе краіны абвалілася частка Вялікай Кітайскай сцяны даўжынёй 36 метраў, якая пачала будавацца ў 1368 годзе.

**ЗША.** Аб завяршэнні кар'еры аб'явіў самы легендарны спартсмен плывец Майкл Фелпс, які стаў 18-разовым алімпійскім чэмпіёнам і заваяваў яшчэ 4 медалі на такіх гульнях.

**Расія.** Віцэ-прэм'ер РФ Д. Рагозін назваў сусветную поп-зорку Мадону б…, калі яна на сваім сольным канцэрце ў Маскве выступіла ў падтрымку скандальнай групы Pusssi Riot.

# Зацверджана палажэнне аб перадачы непаўналетніх бацькам у камендацкую гадзіну



■ Марына Носава, БелаПАН

**Як паведаміла прэс-служба ўрада, гаворка ідзе аб парадку перадачы непаўналетніх (ва ўзросце да 16 гадоў), знойдзеных супрацоўнікамі органаў унутраных спраў у перыяд з 23.00 да 6.00 па-за жыллём без суправаджэння бацькоў, апекуноў або без суправаджэння па іх даручэнні паўналетніх асоб, бацькам, апекунам або па іх даручэнні паўналетнім асобам і дастаўлення такіх непаўналетніх у сацыяльна-педагагічныя цэнтры.**

Дакумент зацверджаны пастановай Саўміна № 772 ад 22 жніўня. Пастанова набудзе моц з 5 верасня гэтага года. Згаданае палажэнне складаецца з трох раздзелаў. У прыватнасці, у ім гаворыцца, што калі міліцыя знаходзіць непаўналетняга з 23.00 да 6.00 па-за жыллём і без суправаджэння дарослых, то на працягу трох гадзін дзіця трэба перадаць законнаму прадстаўніку або паўналетняй асобе. Калі за гэты час перадаць непаўналетняга не ўдалося, то ён дастаўляецца ў сацыяльна-педагагічны цэнтр.

У палажэнні гаворыцца, што супрацоўнікі органаў унутраных спраў павінны высвятліць прозвішча, імя і імя па бацьку дзіцяці, дату нараджэння і іншыя звесткі, неабходныя для ўстанаўлення месцазнаходжання законных прадстаўнікоў. Пры неабходнасці яны дастаўляюць непаўналетняга ў тэрытарыяльны орган унутраных спраў. Пасля ўстанаўлення асобы міліцыянеры павінны неадкладна прыняць меры па інфармаванні законных прадстаўнікоў аб месцазнаходжанні дзіцяці.

Акрамя таго, дакумент забараняе перадаваць непаўналетняга законным прадстаўнікам або паўналетнім асобам, якія не маюць пры сабе дакументаў, або знаходзяцца ў стане алкагольнага або наркатычнага ап'янення, псіхічна хворым і г.д. Пры гэтым пры перадачы непаўналетняга даросламу складаецца акт аб перадачы непаўналетняга ў трох асобніках. Што да выпадкаў, калі міліцыя вымушана даставіць непаўналетняга ў сацыяльна-педагагічны цэнтр, то для гэтага забараняецца выкарыстоўваць транспартныя сродкі, не прызначаныя для перавозкі людзей. Таксама супрацоўнік органаў унутраных спраў абавязаны прыняць меры, якія выключаюць прычыненне шкоды здароўю непаўналетняга, забяспечваюць захаванасць рэчаў дзіцяці, дакументаў і каштоўнасцей.

Таксама падчас дастаўлення непаўналетняга ў сацыяльна-педагагічны цэнтр міліцыянер абавязаны пастаянна назіраць за паводзінамі дзіцяці і станам здароўя. Калі ў непаўналетняга з'явіліся прыкметы рэзкага пагаршэння стану здароўя, міліцыянер абавязаны неадкладна выклікаць брыгаду хуткай медыцынскай дапамогі або даставіць дзіця ў найбліжэйшую дзяржаўную арганізацыю аховы здароўя. Больш за тое, да прыбыцця хуткай дапамогі супрацоўнік прымае неадкладныя меры па аказанні неабходнай дапамогі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Па рашэнні ўрада Беларусі закупачныя цэны на ўраджай харчовага зерня 2012 года ўзраслі на 15 %, пшаніца падаражэла на 30 %, чакаецца павышэнне цэн на хлеб.

**Салігорск.** Магутнасці новага Бярозаўскага рудніка ААТ "Беларуськалій" забяспечаць здабычу яшчэ 2 мільёна тон сыравіны штогод, на чарзе запуск сёлета яшчэ аднаго рудніка.

**Магілёў.** Паблізу абласнога цэнтра ў вёсцы Дашкаўка адкрылі сучаснае бульбасховішча на 2 тысячы тон насення бульбы і доследных узораў клубняў абласной станцыі НАН РБ.

**Мінск.** Ноччу ў цэнтры беларускай сталіцы некалькі кілераў па заказу забілі экс-дэпутата парламента Грузіі і вядомага зараз крымінальнага аўтарытэта Бонда Шалікіяні.

**Касцюковічы.** Будаўнічая галіна краіны атрымала яшчэ адзін цэментны завод магутнасцю амаль 2 млн. тон цэменту ў год, пабудаваны з прыцягненнем кітайскіх інвестыцый.

**Мінск.** Амаль 400 тысяч беларусаў, прызнаў прэм'ер-міністр М. Мясніковіч, працуюць нелегальна, падаткі не плоцяць, але разлічваюць мець пенсію за кошт тых, хто ля станка.

**Горкі.** Арганізатары чарговага хлебаробскага свята "Дажынкі-2012" у райцэнтры пры падтрымцы Мінгандлю Рэспублікі Беларусь упершыню прававдуць тут піўны фестываль, як на Захадзе.

**Мінск.** Як паведаміла Міністэрства аховы здароўя Беларусі, у краіне ў 1-м паўгоддзі сёлета памерлі ў працаздольным узросце 13,3 тысячы чалавек, альбо кожны 4 нябожчык.

**Ельск.** За перавышэнне службовых паўнамоцтваў абласны Следчы камітэт распачаў справу супраць старшыні райсавета дэпутатаў, які дазволіў незаконную вырубку дубоў.

**Магілёў.** Абласны цэнтр абзавёўся новым двухпалубным турыстычным суднам з кафэ-барам, якое разлічанае на перавозку 82 пасажыраў. Яго вырабіў суднабудаўнічы завод горада Пінска.

**Мінск.** Упершыню ў Інстытуце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта не было конкурсу на платную форму навучання. На вучобу залічылі ўсіх жадаючых, хто ў стане аплаціць яе кошт.

**Шклоў.** У магазінах раёна з'явіліся спісы злосных п'яніц з іх фота, якім забаранілі поўнасцю прадаваць спіртныя напоі, такі эксперымент пачаўся і ў Бялыніцкім раёне.

**Слуцк.** З залатым медалём вярнуўся дамоў з 44-й міжнароднай алімпіяды па хіміі ў ЗША з удзелам 72 краін свету ў родную гімназію № 1 вучань 10-га класа Нікіфар Лазоўскі.

**Мінск.** Пасля дыскваліфікацыі за допінг Н. Астапчук вынік выступлення зборнай Беларусі на летніх Алімпіядах (12 медалёў) стаў найгоршым у суверэннай гісторыі краіны.

**Барысаў.** Пяты год запар мацнейшы айчынны клуб і чэмпіён Беларусі па футболе – БАТЭ забяспечыў беларускім балельшчыкам захапляльную і цікавую еўракубкавую восень.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** Першы намеснік міністра прамысловасці Беларусі Іван Дземідовіч жорстка раскрытыкаваў дзейнасць ААТ "Праммашрамонт", у яго няма збыту сельгасмашын.

**Віцебск.** Першым у вобласці калгас "Альгоўскае" пачаў вырошчваць у сваіх цяпліцах пробныя партыі 30 гатункаў вінаграду ўслед за рэдкімі кветкамі і малымі дрэўцамі.

**Наваполацк.** У нафтаградзе ўдалося ўзвесці першы ў вобласці жылы дом цалкам на камерцыйнай аснове, але з-за недахопу фінансаў і кадраў пад пытаннем 2 шматпавярховых дамы.

**Паставы.** У мясцовым філіяле холдынга "Гарызонт", на заводзе "Беліт" пачалі выпуск сучасных вадкакрышталічных тэлевізараў з палепшанымі тэхналогіямі гуку DOLBY.

**Глыбокае.** Адразу 60 тон паліва ўдалося зэканоміць у буйнейшай у раёне гаспадарцы "Канстанцінаў Двор" пасля набыцця 15 прыбораў уліку расходу коштам кожны 5 мільёнаў рублёў.

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец загадаў заканчваць уборку збожжа па начному графіку да 2 гадзін пасля апоўначы, але раса і дажджы перашкаджалі павялічыць тэмпы жніва.

**Чашнікі.** Раённы суд пакараў мужчыну, які моцна скалечыў групу птушак бакланаў штрафам на суму больш 23 млн. рублёў, з якіх 20,7 мільёна – на карысць дзяржавы.

**Докшыцы.** Архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій узначаліў малебен і хрэсны ход у царкве св. Г. Пабеданосца вёскі Сітцы ў гонар прападобнага Серафіма Сароўскага.

**Новалукомль.** На дзень горада фірма з Кітая, якая будуе новы энергаблок для мясцовай ГРЭС, падаравала гараджанам дзіцячую гульнявую пляцоўку і свой цікавы канцэрт.

**Шаркаўшчына.** Жыхары вёскі Германавічы за два тыдні сабралі ў мясцовым лесе і здалі нарыхтоўшчыкам 3 тоны чарніц па цане 20 тысяч за 1 кг, а вось грыбоў тут небагата.

**Расоны.** За злоснае браканьерства і вылаў трыма сеткамі на рацэ Нішча ў маі 123 асобін розных рыб суд раёна пакараў мясцовага жыхара 2 гадамі турмы і штрафам 14,1 млн.

**Полацк.** З глыбіні 7 метраў дасталі з калодзежа выратавальнікі МНС 65-гадовага мужчыну, які дапамагаў суседу пачысціць яго і быў "зацснуты" бетонным кальцом.

**Глыбокае.** Да Дня беларускага пісьменства ў райцэнтры змянілі раённую Дошку гонару і капітальна адрамантавалі і абнавілі гастраном "Родны кут" на плошчы 17 Верасня.

**Лёзна.** Начны пажар, які ўзнік па невядомай прычыне пасля апоўначы ў вёсцы Вялікія Калінавічы, знішчыў гараж з "Жыгулямі" і значна пашкодзіў хату 73-гадовага пенсіянера.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала 58-гадовага бамжа па падазрэнні ў нападзенні і забойстве нажом 38-гадовай судзімай раней гараджанкі ў яе кватэры падчас спрэчкі на падпітку.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Унікальнасць нашага горада ў тым, што ён складаецца з розных, некалі самастойных, населеных пунктаў: Глыбокае-горад, Глыбокае-мястэчка, Беразвечча, Міхайлаўка, Мураўёўка і Барок. І кожная з гэтых частак горада мае сваю багатую гісторыю .

Аляксандр Іваўчонак, манах, гісторык і архівіст, адзін з нашых аўтараў, вельмі грунтоўна апісаў гісторыю мястэчка Глыбокае, якое існавала да 1842 года і належыла манахам кармелітам босым. Матэрыялы сп. Аляксандра сталіся як ніколі вельмі запатрабаванымі цяпер да Дня беларускага пісьменства і друку.

Аднак прыйшоў час прысвяціць хоць колькі месца гісторыі горада Глыбокае. Шкада, але на сёння мы не маем такіх грунтоўных матэрыялаў пра горад Глыбокае, якія былі б тоесныя матэрыялам Аляксандра Івашчонка пра мястэчка Глыбокае.

Матэрыял У.І. Пашкевіча, які мы прапануем Вашай увазе, быў зачытаны на гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі ў Глыбокім яшчэ ў кастрычніку 1991 г. Ён хоць неяк кампенсуе прабел у гісторыі г. Глыбокае.

# Горад Глыбокае у першай палове XVIII стагоддзя



**У сярэднявеччы на месцы Гарадскога цэнтра культуры і «Глыбокаерайгаз» існавалі абарончыя ўмацаванні – замак Радзівілаў. Пад будынкам «Глыбокаерайгаз», як сцвярджае колішні яго кіраўнік А.С.Калбасіч, знаходзяцца падвалы «крапаснога тыпу» з унутраным калодзежам (цяпер – засыпаны). Вуліца, якая праходзіла міма гэтых будынкаў, яшчэ ў 1930-ыя гг, называлася Замкавай.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

■ **У.І. Пашкевіч,**
*аспірант АН БССР.*
*Апублікавана ў "Весніку Глыбоччыны" ад 15 кастрычніка 1991 г.*

**Адной з асаблівасцей гістарычнага развіцця Беларусі было існаванне на яе тэрыторыі вялікай колькасці прыватнаўласных гарадоў. Яны складалі больш 40 адсоткаў ад агульнай колькасці гарадоў. Да іх ліку адносіцца і Глыбокае.**

Гісторыя адыграла па сутнасці «злы жарт» з Глыбокім. Населены пункт, які меў адну назву, аказаўся на працягу некалькіх стагоддзяў (з пачатку XVI і да канца XVIII) фактычна раздзеленым на дзве самастойныя часткі не толькі паміж уладальнікамі. Яго паўночна-ўсходняя частка належала каталіцкаму ордэну Кармелітаў, а паўднёва-заходняя (значна большая частка) была ўласнасцю роду Зяновічаў, а затым Радзівілаў. Але горад быў раздзелены яшчэ і ў адміністрацыйных адносінах. Тая частка Глыбокага, якая належыла кармелітам, адносілася да Полацкага ваяводства, а тая, што — Радзівілам, — уваходзіла ў склад Ашмянскага павета Віленскага ваяводства. Мне падаецца, што гэта ўнікальны выпадак у гісторыі.

На аснове архіўных матэрыялаў я і паспрабую ахарактарызаваць жыццё Глыбокага ў першай палове XVIII стагоддзя, але, праўда, не ўсяго горада, а толькі той часткі, якая належыла Радзівілам. Гэта была вялікая частка горада і ў эканамічных адносінах больш развітая. У другой жа яго частцы было, можна сказаць, сканцэнтравана духоўнае жыццё.

Глыбокае стала часткай вялізных уладанняў Радзівілаў у сярэдзіне XVII стагоддзя ў выніку шлюбу Ганны Зяновіч з Альбертам-Уладзіславам Радзівілам. У XVIII стагоддзі ўладальнікі Глыбокага Іеранім-Фларыян Радзівіл і пазней яго брат Міхаіл-Казімір здавалі горад і навакольныя землі ў заставу (перадача маёнтка ў часовае карыстанне як гарантыя вяртання пазыкі) ці ў арэнду. Так, горад і навакольныя землі ў застаўную пасесію (адзін з відаў арэнды) спачатку Брысастоўскаму, а затым Віленскаму епіскапу Ігнацію Масальскаму.

Цэнтрам горада была Рынкавая плошча[1], ад якой у радыусальных напрамках адыходзілі вуліцы: Віленская, Друйская (яны пераходзілі потым у дарогі на Вільню і Друю), Замкавая і Дворная. Пазней, ужо к сярэдзіне XVIII стагоддзя, у раёне Віленскай вуліцы з'явіўся завулак Кісялеўскі. На Рынкавай плошчы знаходзілася ўніяцкая царква Св. Тройцы, пабудаваная яшчэ ў сярэдзіне XVII стагоддзя. З 1704 года згадваецца ўжо і аб другой царкве Св. Пятра на Дворнай вуліцы. Відавочна, яе будаўніцтва было закончана дзесьці паміж 1702 і 1704 гадамі. З сярэдзіны XVIII стагоддзя на Рынкавай плошчы размяшчаўся шпіталь, які, пачынаючы з 60-х гадоў XVIII стагоддзя, называецца як шпіталь «рускі». Відаць, далі такую назву ў процівагу пабудаванай да гэтага часу на Рынкавай плошчы яўрэйскай школы. Праўда, тут няма поўнай яснасці. Магчыма, гэта яўрэйская школа была сінагогай, будаўніцтва якой у 1742 годзе дазволіў глыбоцкім яўрэям епіскап Віленскі Міхаіл Зяновіч, замест старой, знішчанай пажарам.

Непадалёк ад горада размяшчалася сядзіба таго, хто валодаў горадам — Радзівіла. "Двор" гэты складаўся з драўлянага аднапавярховага жылога будынка, пякарні, гумна, свірнаў вадзянога млына і іншых гаспадарчых пабудоў. Быў тут і сад, і вялікі агарод. Дарэчы, пра сад у Глыбокім згадваецца на працягу амаль усяго XVIII стагоддзя.

Згодна інвентару 1704 года, у Глыбокім налічвалася 263 дамы. Калі зыходзіць з агульнапрынятай у гістарычнай навуцы сярэдняй лічбы заселенасці дома (6-7 чалавек), то колькасць насельніцтва Глыбокага ў 1704 годзе складала 1.600-1.700 чалавек. На працягу першай паловы XVIII стагоддзя назіраўся хаця і марудны, але рост колькасці гарадскога насельніцтва. За 50 гадоў колькасць дамоў паявілічылася да 281. І ў 1752 годзе ў Глыбокім пражывала каля 1.700-1.800 жыхароў. Такі нязначны прырост насельніцтва усяго ў сярэднім на два чалавекі ў год тлумачыцца той драматычнай сітуацыяй, якая ўзнікла на Беларусі ў пачатку XVIII стагоддзя, калі ў выніку Паўночнай вайны падвергліся апустошванню цэлыя раёны Беларусі, многія гарады і мястэчкі былі разрабаваныя, а некаторыя знішчаныя. За гады гэтай вайны колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася больш чым на 30 адсоткаў. Магчыма, гэтыя падзеі мелі дачыненне і да Глыбокага.

**У крыніцах XVIII стагоддзя радзівілаўская частка Глыбокага заўсёды называлася горадам**

Зямля ў горадзе, была разбіта на асобныя ўчасткі (пляцы), на якіх размяшчаліся сядзібы гараджан з дамамі і гаспадарчымі пабудовамі. Даныя інвентароў дазваляюць супаставіць маёмаснае становішча жыхароў горада. Строга фіксаваўся памер пляца, мелася свайго роду класіфікацыя жылля гараджан на дамы і халупы. Так, у 1752 годзе толькі 27 адсоткаў жыхароў Глыбокага пражывалі ў дамах, астатнія — у халупах.

Як вядома, гарады і мястэчкі былі цэнтрамі рамяства і гандлю. Нам нічога не вядома аб занятасці гараджан у Глыбокім на пачатку XVIII стагоддзя. Згадваецца толькі тое, што ў 1702 годзе 5 чалавек былі занятыя «на дворной работе». А вось дакументы больш позняга перыяду ўтрымліваюць ужо другую інфармацыю. У 1752 годзе ў Глыбокім было 113 рамеснікаў (ганчары, ткачы, краўцы, гарбары). Сустракаюцца і даволі рэдкія прафесіі, як напрыклад, пераплётчык, златнік. Насупраць аднаго прозвішча ўказана прафесія, у перакладзе на сучасную мову, як захавальнік музея ці бібліятэкі. Крыху пазней, у 1761 годзе ў горадзе пражывалі два музыканты. Што датычыць златніка, то гэтая прафесія згадваецца на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў і рамяством гэтым займалася адна і тая ж сям'я. Іх прозвішча было Трухлец.

У Глыбокім у гэты час назіралася выразная прафесійная спецыялізацыя ў рамесленай вытворчасці. 59 адсоткаў рамеснікаў было занята ў гарбарнай вытворчасці, большасць з якіх складалі абутнікі; 23 адсоткі рамеснікаў займаліся ткацтвам і пашывам адзення. Прычына такой спецыялізацыі заключалася ў цеснай сувязі горада з мясцовым рынкам прадуктаў сельскай гаспадаркі.

У пачатку XVIII стагоддзя кожны другі жыхар Глыбокага меў за горадам надзел зямлі памерам ад 1/4 да 1/2 валокі (валока — 24.36 га). У 1702 годзе жыхары горада мелі 36 валок ворнай зямлі (876 га), такая ж колькасць зямлі захоўвалася і на працягу 50 гадоў. Дарэчы, права мець надзел зямлі было толькі ў хрысціянскага насельніцтва горада.

Вялікая колькасць жыхароў з навакольных вёсак вяла бойкі гандаль на рынку, дзе збіраліся кожны тыдзень. У 1704 годзе ў Глыбокім было 17 крамаў. Ужо праз 50 гадоў іх колькасць узрасла да 40. Прытым, ужо сярод уладальнікаў крам назіраецца маёмасная дыферэнцыяцыя. Так, чатыры гаспадары мелі па 2 крамы, а адзін — ажно 3. У 1752 годзе ў горадзе пражывала 12 гандляроў, а ўсяго ў гэты час пражывала 52 чалавекі, якія так ці інакш былі звязаныя з гандлёвымі аперацыямі. Разам з членамі сваіх сем'яў яны складалі 18 адсоткаў насельніцтва горада. Гэта даволі высокі адсотак гарадскога насельніцтва, якое займалася гандлем. Згодна падлікаў Грыцкевіча, у сярэдзіне XVIII стагоддзя толькі Слуцк меў такі паказчык (18-19 адсоткаў).

Аб размаху фінансавых аперацый глыбоцкіх гандляроў сведчыць такі прыклад: у 1733 годзе нехта Шмігальскі арыштаваў двух гандляроў з Глыбокага, якія везлі на вазах тавару на суму 3.200 злотых, што раўнялася амаль усяму памеру гадавой грашовай рэнты з Глыбокага. Мясцовыя гандляры выходзілі і на знешні рынак. У дакуменце за 1779 год гаворыцца, што глыбоцкія гандляры «с древних времён до Кролевца (г. Кёнігсберг, Прусія) разные товары возили».

У прыватнаўласных гарадах вышэйшая ўлада належыла яго ўладальніку. Аднак, непасрэднае кіраўніцтва горадам было ўскладзена на адміністрацыю, на чале якой стаяў войт. У пачатку XVIII стагоддзя абавязкі войта ў Глыбокім выконваў Тэадор Іваноўскі. У 1761 годзе згадваецца імя і прозвішча войта Паўлы Плiскачовіча (патомны гарбар), а ў 1764 годзе войтам быў Станіслаў Каласоўскі. Усе яны жылі на адной вуліцы — Замкавай. Войт быў даверанай асобай магната і, зразумела, абараняў яго інтарэсы. У руках войта была сканцэнтраваная ўся распарадчая і судовая ўлада ў горадзе. Ён узначальваў гарадскі магістрат і старшынстваваў у гарадскім судзе.

Войты мелі вызначаныя правы і прывілеі. Войт Глыбокага вызваляўся ад выканання павіннай і ўплаты падаткаў.

Многія гарады Беларусі XVIII стагоддзя, у тым ліку і прыватнаўласныя, мелі Магдэбургскае права. Яно давала гораду некаторыя льготы ў гандлёвай і рамесніцкай дзейнасці, падатковыя льготы. Магчыма, Глыбокае не мела магдэбургскага права, хаця прамога сведчання, сцвярджаючага ці адмаўляючага гэта, няма.

Зямля, на якой быў размешчаны горад і ворныя землі за горадам, належыла ўладальніку горада. Ён даваў зямлю гарадской абшчыне з умовай выканання пэўных павіннасцяў. Так, у пачатку XVIII стагоддзя мяшчане Глыбокага плацілі свайму ўладару, як сказана ў інвентары «на дзень Св. Михаила согласно календарю «римскому» 10 польских злотых за волоку земли». Акрамя таго пастаянна мяшчане (4 разы) прыцягваліся да гаспадарчых работ. Яўрэі мелі толькі гарадскія пляцы і плацілі за іх па 20 злотых і да гаспадарчых работ не прыцягваліся. На працягу першай паловы XVIII стагоддзя павіннасці гэтыя карэнным чынам не мяняліся.

Гараджане не маглі ў поўнай меры распараджацца сваёй маёмасцю. Яны не мелі права прадаваць свае зямельныя ўчасткі і дамы шляхце і яўрэям.

Страшным бедствам для сярэдневяковых гарадоў былі пажары. Драўляныя ў асноўным дамы размяшчаліся вельмі блізка адзін ля аднаго, а гэта, у выпадку ўзнікнення пажару, садзейнічала яго хуткаму распаўсюджванню. Вялікі пажар адбыўся ў Глыбокім у 1700 годзе. Ён знішчыў трэцюю частку горада, пакінуў без жылля амаль паўтысячы чалавек. Што было ў другой частцы горада, якая належыла кармелітам, невядома. Магчыма, рака, што раздзяляла горад, не дала разбушавацца вогненнаму смерчу. Потым у горадзе прымаліся строгія меры па супрацьпажарнай бяспецы. Згодна інвентару 1704 года, з ліку гараджан па чарзе ўночы назначалася два «вартоўніка». Гараджане абавязаныя былі таксама рэгулярна вычышчаць коміны. На даху кожнага дома належыла мець лесвіцу, а ля самога дома павінна была стаяць бочка з вадой. У 1752 годзе да гэтых патрабаванняў дабаўлялася яшчэ такое: на кожнай вуліцы павінны быць жалезныя багры. Для дапамогі пацярпелым ад пажару ў горадзе стварыўся адмысловы фонд, куды кожны гараджанін уносіў па 15 грошай.

У выпадку нападзення непрыяцеля, усё дарослае насельніцтва прыцягвалася на абарону горада. Згодна інвентару, кожны жыхар Глыбокага абавязаны быў мець агнястрэльную або халодную зброю і ўтрымліваць іх у парадку. У дзень Св. Міхаіла праводзілася рэвізія зброі. Праўда, нічога не згадваецца аб абаронных збудаваннях у горадзе. Апошні раз аб гэтым згадвалася ў 1659 годзе. Але калі зыходзіць ад існавання ў горадзе апалчэння, то можна меркаваць, што ў пачатку XVIII стагоддзя абаронныя ўмацаванні існавалі.

І, нарэшце, такі цікавы момант. У гістарычнай літаратуры Глыбокае называецца мястэчкам. Магчыма, аўтары зыходзілі з колькасці насельніцтва. Адны лічаць мяжой заселенасці горада 100-150 дамоў, другія —200, трэція – 300 дамоў. Аднак у крыніцах XVIII стагоддзя радзівілаўская частка Глыбокага заўсёды называлася горадам. Горадам называлась гэтая частка Глыбокага і ў тарыфе падомнага падатку 1775 года. А кармеліцкая частка называлася мястэчкам. Таму, мусіць, правільней будзе лічыць Глыбокае горадам, ва ўсякім разе, хаця б да XVIII стагоддзя.

[1]сёння – Цэнтральны пляц.

З 25 жніўня па 10 верасня праводзіцца спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Увага – дзеці!». Яго мэта – папярэджанне траўматызму і смяротнасці ў выніку дарожна-транспартных здарэнняў.

# За дзяцей – усей грамадою!

І.У. Федаровіч,
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*



Магчыма, прычына ў тым, што сённяшнім дарослым яшчэ ў дзяцінстве не была прышчэплена культура паводзін на дарозе. Ці, можа, гэта непазбежнасць, бо дарога, – такое небяспечнае месца, на якім заўсёды будуць ахвяры, колькі ні вучы Правілам дарожнага руху і не прапагандуй іх. Вядома ж, прычыны ДТЗ у кожным пэўным выпадку розныя. Але выпадак, калі гіне дзіця, – гэта велізарны боль, і разважаць у такой сітуацыі пра прычыны непапраўна цяжка. На вялікі жаль, гора на адным выпадку не спыняецца, яно ідзе далей ад сям'і – сям'і. Хацелася б верыць, што бацькоў гэты матэрыял закране за жывое. Бо яны, як ніхто іншы, у адказе за сваіх сыноў і дочак.

Першая з прычынаў траўміравання дзяцей на дарозе зусім не залежыць ад саміх малянят. Гэта выпадкі, калі дзеці знаходзяцца ў якасці пасажыраў у аўтамабілях, якія патрапілі ў аварыю. Тут увесь цяжар віны кладзецца на плечы вадзіцеля, які заўсёды павінен памятаць, што разам з ім у машыне знаходзяцца дзеці, і пры любым абвастрэнні сітуацыі на дарозе ён рызыкуе першым чынам жыццём маленькіх пасажыраў. На жаль, гэта разумеюць далёка не ўсе вадзіцелі.

Другая прычына – гэта свавольства, няўважлівасць, не выкананне правіл на дарозе самімі дзецьмі і падлеткамі, калі яны апынуліся на вуліцы адны ці ў кампаніі аднагодкаў, такіх жа непадрыхтаваных да асаблівасцяў дарожнага руху, без прышчэпленых элементарных правіл паводзін на дарозе. Менавіта гэту частку здарэнняў з дзецьмі можна скарацiць сумеснымі высілкамі школы, сям'і, Дзяржаўтаінспекцыі, дзіцячых і грамадскіх арганізацый па растлумачэнні, прапагандзе сярод юных удзельнікаў руху правіл бяспечных паводзін. І галоўную ролю тут павінна выканаць сям'я. Менавіта бацькі, як ніхто іншы, з малых гадоў знаходзячыся побач, здольныя выпрацаваць у дзіцяці звычку правільна дзейнічаць пры пераходзе дарогі, пры паездцы на аўтамабілі, у грамадскім транспарце і г.д. Толькі дадатны прыклад маці і бацькі можа прышчапіць чалавеку, які яшчэ фармуецца, павагу да правіл паводзін на дарозе. Толькі тады, ужо да школьнага ўзросту, вы зможаце засцерагчы свайго дзіця, быць спакойным за яго. А далей бацькам на дапамогу (менавіта на дапамогу, а не на змену) павінна прыйсці школа. Там, у дзіцячым калектыве, настаўнікам, неабходна падтрымліваць атмасферу разумення і няўхільнага выканання Правіл дарожнага руху. Школа тут можа ўжыць увесь свой патэнцыял. У гэтым плане педагогі павінны цесна супрацоўнічаць з ДАІ.

На жаль, нярэдкімі з'яўляюцца выпадкі, калі бацькі зусім не праяўляюць клопатаў пра дзяцей, знаходзячы аддуху ў п'янстве. Часцяком мы бачым сітуацыі, калі бацькі не толькі не прышчапляюць малянятам ніякіх навыкаў, але і самі, знаходзячыся з дзецьмі на вуліцы, груба парушаюць Правілы дарожнага руху. А зараз падумайце: як можна быць спакойным за такога дзіця? Як можна быць упэўненым, што ён дажыве да спелага ўзросту, не патрапіўшы пад колы аўтамабіля? Як ён будзе ўспрымаць усе гутаркі пра правільныя паводзіны на вуліцы, калі кожны дзень бачыць бацьку і маці, якія нахабна імі грэбуюць?

І яшчэ адзін прычына траўматызму дзяцей (пры выкананні правіл паводзін на вуліцы) – бяспечнасць, зухаватасць, п'янства вадзіцеляў. У такіх выпадках любая суровасць пакарання не кампенсуе жыцця і здароўя, а таксама незваротную страту аўтарытэту Правіл дарожнага руху як у дзіцяці, які патрапіў у аварыю, так і ў яго бацькоў, сваякоў. Вадзіцель, які ўбачыў перад сабой на вуліцы дзіцей, павінен ставіцца да іх як да аб'екта падвышанай увагі, паводзіць сябе максімальна асцярожна і карэктна. Бо перад ім чалавек, у якога яшчэ няма навыкаў, досведу паводзін на вуліцы, які яшчэ не асвоіў правілы руху, які ў складаным становішчы можа разгубіцца, памыліцца.

**Паважаныя дарослыя, вадзіцелі!**

Памятайце, што вы ў адказе за дзяцей. Не забывайце нагадваць дзецям нескладаныя правілы бяспекі паводзін на вуліцах і дарогах. Дамагайцеся, каб выкананне Правіл дарожнага руху ўвайшло ў звычку, стала нормай паводзін на вуліцы.

**Вадзіцелям рэкамендуем з 27 жніўня па 10 верасня перасоўвацца на транспарце з уключаным блізкім святлом фар.**



# ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

2 верасня 2012 г. г. Глыбокае

## ПРАГРАМА СВЯТА

### "ПРЫСВЯЧЭННЕ ГОДУ КНІГІ"

***29 жніўня – 2 верасня - Рэспубліканская навукова-асветніцкая экспедыцыя «Дарога да Святыняў» з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподняга.***

**(Мінск – Святое Поле каля в.Загор'е Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці – вв. Лясная, Моўчадзь Баранавіцкага раёна – г.Талачын Віцебскай вобласці – г.п.Багушэўск Сенненскага раёна – г.п.Лёзна – г.п.Езярышча Гарадоцкага раёна – г.п.Ула Бешанковіцкага раёна – г.п.Асвея Верхнядзвінскага раёна – в. Празарокі Глыбоцкага раёна – г.Глыбокае).**

## 1 верасня

**г. Глыбокае — Бібліятэка сямейнага чытання, вул. Энгельса, 41а**

**10.00** Адкрыццё мемарыяльнай дошкі, прысвечанай Лявонцію Ракоўскаму.

**10.00-18.00** Выстаўка-прэзентацыя "Паэтычная гасцёўня" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, прысвечаная творчасці народных паэтаў Беларусі Я.Купалы, Я.Коласа, М.Танка.

**10.30** Узнагароджанне пераможцаў XX рэспубліканскага конкурсу "Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры".

**Выставачная зала, вул. Леніна, 14**

**11.00-18.00** **"Прысвячэнне Году кнігі"** – выстава друкаваных рарытэтаў з фондаў Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

**11.00-18.00** Выстава гісторыі пісьменства "Ад берасцяной граматы да ІНТЭРНЭТ" (з фондаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея).

**Дом культуры, вул. Камуністычная, 10**

**12.00-14.00** **"Пісьменнік. Кніга. Час"** – Міжнародны круглы стол з удзелам беларускіх і замежных пісьменнікаў
*Арганізатары – Міністэрства інфармацыі, РВУ "Літаратура і мастацтва", Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя П.Броўкі", ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі".*

**Глыбоцкі райвыканкам (зала пасяджэнняў).**

**15.00-18.00** **"Глыбоцкія чытанні"** – навукова-практычная канферэнцыя.
*Арганізатары – Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Глыбоцкі райвыканкам.*

**Дом культуры, вул. Камуністычная, 10**

**16.00-18.00** **"Жывая класіка"** – конкурс юных чытальнікаў Глыбоцкага раёна па творах класікаў беларускай літаратуры: да юбілеяў Я.Купалы, Я.Коласа, М.Танка.
*Арганізатары – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Глыбоцкі райвыканкам, РВУ "Літаратура і мастацтва", Рэдакцыя часопіса "Вясёлка".*

**21.00-23.00** Этнадыскатэка "Старадаўнія рытмы"

**в.Празарокі Глыбоцкага раёна — Празароцкая СШ**

**10.00-18.00** Перасоўная выстаўка, прысвечаная творчасці беларускага тэатральнага і літаратурнага дзеяча Ігната Буйніцкага.

**11.00-12.00** Фальклорнае свята "Рэй вядзе Ігнат Буйніцкі".

**Галоўная сцэна (Цэнтральная плошча)**

**18.00-19.30** Канцэрт Заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь ансамбля народнай музыкі "Бяседа".

**20.00-21.00** Канцэрт творчых калектываў вобласці.

**10.00-22.00** "Віцебшчына хлебасольная" – выстава-кірмаш панадворкаў гарадоў і раёнаў вобласці.

## 2 верасня

**Кафедральны сабор Нараджэння Прасвятой Багародзіцы.**

**9.00-11.00** Божая Літургія.

**Сквер на плошчы 17 Верасня.**

**11.15-11.40** Цырымонія адкрыцця Сквера славутых землякоў-глыбачан.

**11.40-12.00** Урачыстае шэсце "З крыніц жыватворных Глыбоцкага краю".

**Галоўная сцэна (Цэнтральная плошча).**

**12.00-13.00** **Урачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства.**
Афіцыйная цырымонія адкрыцця Свята.
Тэатралізаваная дзея "Вытокі духоўнасці".

**13.00-14.00** Цырымонія ўзнагароджання пісьменнікаў-пераможцаў Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор 2012 года.

**14.00-15.30** Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.Цітовіча.

**15.30-17.00** Выступленні творчых калектываў вобласці і замежных гасцей.

**17.00-18.00** Маладзёжны праект "Час выбраў нас".

**Плошча 17 Верасня.**

**10.00-18.00** **Фестываль кнігі і прэсы:**
- павільёны «Сучасная беларуская кніга і прэса», "Паліграфічныя абсягі", "Праекты Саюзнай Дзяржавы";
- выстаўка "СМІ Віцебшчыны";
- прэзентацыі выдавецкіх праектаў;
- сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, выдаўцамі, журналістамі, распаўсюджвальнікамі прэсы.

**Дзіцячы панадворак (Дзіцячы гарадок "Брыганціна").**

**10.00-18.00** **Свята для дзяцей "Разам з кнігай мы расцём".**
Падвядзенне вынікаў рэспубліканскага конкурсу юных чытальнікаў.
Літаратурная гасцёўня "Голасам душы і сэрца".
Інтэлектуальны турнір "Мая Глыбоччына".
Выстава-кірмаш дэкаратыўна-прыкладной творчасці дзяцей "Чалавеку патрэбна не слава".
Конкурс малюнкаў на асфальце "Прыедзь у край мой ціхі…"
Работа пляцовак "Модная хваля", "Сэрцам народжаны спеў".

**Узбярэжжа возера Кагальнае.**

**11.00-15.00** Дзіцячы пленэр імя Язэпа Драздовіча. Майстар-клас маляванкі.

*Заканчэнне на стар.11*

